I ГЭТА ТАК!

# Гомельскія НАВІНКІ

Жоўтая газетка на роднай мове Кастрычнік-2 2015

Першае 100% цалкам беларускамоўнае выданне Гомельскага рэгіёну




## 455 год гербу Гомеля

стар. 1

**Забіла свядома і не раскаялася: у Гомелі вынеслі прысуд маці, якая ўтапіла ў ванне дваіх маленькіх дзетак**

стар. 4

**Новая паляўнічая справа. Двое адседзяць за ўсіх?**

стар. 6

**ФК «Славія-Мазыр» могуць прыцягнуць да адміністрацыйнай адказнасці за фінансавыя парушэнні**

стар. 8

# 455 год гербу Гомеля

***2015 год выдаўся шматлікім на гістарычныя юбілеі Гомеля: 680 год далучэння Гомеля князем Альгердам да Беларусі ў 1335 годзе, 480 год вызвалення Гомеля князем Юрыям Радзівілам ад маскоўскай акупацыі ў 1535.***

Чарговы юбілей Гомеля - наданне гораду герба ў 1560 годзе Вялікім князем Жыгімонтам II Аўгустам.

Герб меў выгляд шчыта на якім у чырвоным полі змяшчаўся срэбны кавалерыйскі крыж.

Вытрымка з вялікакняскага прывілею Жыгімонта II Аўгуса ад 21 сакавіка 1560 года: «Присылали до нас подданные нашы мещане места Гомейского, оповедаючы, што ж они печати месткое, которое бы справы местьские печатовали мели, в себе не мають и для того великое заструдненье в тых справах и потребах местских им частокрот дется… Ино мы з ласки нашое господарское… печать местьскую з гербом крыжа им дали и мети дозволили и сим листом нашым дозволяем. Мають вжо они от того часу тое печати и гербу помененого во всих справах и потребах, оному месту належачих, вживати и им печатоватися по тому, яко и у ыншых местах нашых Великого князства Литовского обычай того заховывается.» — Привилей мещаный гомейский на печать местьскую"

Цікавым з'яўляецца той факт, што Гомель атрымаў герб яшчэ не маючы Магдэбургскага права - гэта права ён атрымае толькі крыху больш чым праз стагоддзе.

Наданне гораду без Магдэбургскага права паказвае вялікае значэнне Гомеля для дагачаснай Беларусі і павагу з боку Вялікага князя да жыхароў Гомеля, што неслі няспынную памежную варту і абараняді Беларусь ад нападаў з усходу.

Пасля акупацыі часткі Беларусі разам з Гомелем у 1772 годзе Расейскай імперыяй Гомель прыйшоў у поўнае занядбанне, таму адміністрацыйны цэнтр акупацыйнымі ўладамі быў перанесены з Гомеля ў суседні горад Новая Беліца, які быў імі заснаваны ў 1777 годзе. Рускія ўлады далі Новай Беліцы ў 1781 годзе герб:

Герб Гомелю


гістарычны герб 1560 г.


расейскі герб 1855 г.


сучасны герб 1997 г.

«В верхней части щита, часть герба Могилевского: в золотом поле половина Российского герба. В нижней — лежащая спокойно рысь, в голубом поле; ибо таковых зверей в окрестностях сего города весьма много».

«Гербоўнік П. П. фон Вінклера» у 1855 годзе герб Новай Беліцы акупацыйная расійскія ўлады перадалі Гомелю.

Пасля аднаўлення незалежнасці Беларусі ў краіне пачаўся працэс вяртання населеным пунктам гербаў.

Але па невядомай прычыне рашэннем Гомельскага гарадскога выканаўчага камітэта ў 1997 годзе за герб Гомеля быў абраны не гістарычны герб Гомеля 1560 года, а герб Новай Беліцы 1781 года, прысвоены ёй акупацыйнымі расійскімі ўладамі, толькі без двухгаловага арла.

Сітуацыя яшчэ больш недарэчная тым, што пераемнік Новай Белаіцы, сучасны Навабеліцкі раён Гомеля таксама з мае 2002 года свой герб (гэта, дарычы, адзіны выпадак у Беларусі, калі раён горада мае свой герб), які маль цалкам супадае з гербам Гомеля - розніца толькі ў позе рысі.

Такім чынам герб Гомеля 1560 года быў гербам горада з 1560 па 1772 год, то бок 212 год.

Герб Новай Беліцы, на падставе якога створаны сучасны герб Гомеля быў гербам Новай Беліцы з 1781 па 1855 год і з 2002 па сённяшні дзень, то бок агулам па стану на 2015 год 87 гадоў.

Герб Гомеля, створаны на падставе герба Новай Беліцы быў гербам Горада з 1855 па 1917 год і з 1997 па сённяшні дзень, то бок агулам па стану на 2015 год 80 гадоў.

Як бачым, сённяшні герб Гомеля заснаваны на падставе герба Новай Белаліцы 1781 года быў быў гербам горада нават меньш, чым гербам Новай Беліцы, а гістарычны герб Гомеля 1560 года быў гербам больш, чым гербы Гомеля і Новай Беліцы разам узятыя (212 год і 167 год адпаведна).

Таму, лагічна, ужо прыйшоў час выправіць гэту гістарычную несправядлівасць, пакінуўшы герб Новай Беліцы Навабеліцкаму раёну Гомеля, а Гомелю вярнуць стары гістарычны герб 1560 года, што заўжды яму належыў, нададзены беларускім Вялікі князем Жыгімонтам II Аўгусам і мае годную і шматвекавую беларускую гісторыю.

*Ігар Случак*

# Жыхароў Рагачоўскага раёна расстралялі ў Маскоўскай вобласці

***Жыхароў Рагачоўскага раёна расстралялі ў Маскоўскай вобласці: адзін загінуў, трое параненыя. Канфлікт адбыўся ў горадзе Перасвет Сергіева-Пасадскага раёна ў ноч на 5 кастрычніка.***

Там мясцовы жыхар, які працуе ў мясцовым жа АМАП (капітан паліцыі, Павел Сталяроў), стаў ахвярай кампаніі ў 6-8 чалавек, гастарбайтэраў з Рагачоўскага раёна. Яны былі даволі п'яныя, і бойка завязалася на роўным месцы. Крыху пазней сілавік, трохі прыйшоўшы ў сябе, патэлефанаваў 33-гадоваму былому стралку АМАП Рафіку Агамагамедаву, які пражываў за некалькі дамоў ад месца здарэння. Той прыбыў на дапамогу, узяўшы з сабой траўматычны пісталет. Разам з таварышам яны вырашылі ўціхамірыць агрэсараў, зноў завязалася бойка, Рафік адкрыў агонь па нагах. Трох хуліганаў ён паспеў параніць.

Калі яго збілі, падаючы, ён стрэліў у галаву аднаму з нападнікаў. Куля прашыла чэрап і той памёр імгненна.

Цікава, што ў 2012 годзе Агамагамедаў разам з парай баявых таварышаў змаглі адбіць пенсіянера, да якога прысталі п'яныя хуліганы на тэрыторыі Перасвета. Калегі доўга ўспаміналі, што Рафік ні на секунду не засумняваўся ў вырашэнні абараніць пажылога мужчыну нават калі на яго наставілі «ствол». У Агамагамедава стрэлілі двойчы, адна з куль прайшла праз шчаку і пакінула шнар на твары.

Але хуліганаў затрымалі і ўжо асудзілі — стралок сеў на паўтара гады агульнага рэжыму. Па дадзеным факце следчым аддзелам па горадзе Сергіеў-Пасад ГСУ СК Расіі па Маскоўскай вобласці распачата крымінальная справа па артыкуле КК РФ «забойства», - патлумачыла «МК» старэйшы памочнік кіраўніка ГСУ СКР па вобласці Вольга Врадзій.

*mk.ru*




# У Гомелі пажар знішчыў кватэру ў дзевяціпавярховіку

***Пажар у кватэры ў дзевяціпавярховіку па вуліцы Кожара ў Гомелі здарыўся ўвечары 20 кастрычніка. Узгаранне ўзнікла ў кватэры на шостым паверсе і агонь вельмі хутка перакінуўся на балкон, паведамляе БелаПАН са спасылкай на Гомельскае абласное ўпраўленне МНС.***




У 18.42 пажар ліквідавалі. На час яго тушэння з суседніх кватэры эвакуявалі 19 чалавек, у тым ліку адно дзіця.

Як мяркуючы выратавальнікі, на момант узгарання ў кватэры нікога не было. Яна цалкам згарэла. Агонь таксама праз балкон перакінуўся на балконы суседніх кватэр і часткова іх пашкодзіў.

Сума матэрыяльнай шкоды і прычыны здарэння высвятляюцца.

*ЕЎРАРАДЫЁ*

# Забіла свядома і не раскаялася: у Гомелі вынеслі прысуд маці, якая ўтапіла ў ванне дваіх маленькіх дзетак

***Сёння, 23 кастрычніка, у Гомельскім абласным судзе быў агучаны прысуд Аксане Сарокінай. У пачатку красавіка яна ўтапіла ў ванне сваіх дзяцей — 11-месячную Ангеліну і 2-гадовага Савелія. Суд прысудзіў яе да 25 гадоў пазбаўлення волі.***

Дзяржабвінаваўца: «Абвінавачаная не раскаялася ў зробленым»

Паводле жадання абвінавачванай і боку абароны суд праходзіў у закрытым рэжыме «ў сувязі з тым, што будуць абмяркоўвацца пытанні, якія тычацца асабістага жыцця» Сарокінай. Суддзя падтрымаў гэтае хадайніцтва і папрасіў прэсу пакінуць залу пасяджэнняў. Так што ў журналістаў не было магчымасці даведацца з вуснаў самой абвінавачванай, чым яна кіравалася, здзяйсняючы такое жахлівае злачынства.

Прадстаўнікам масмедыя дазволілі прысутнічаць толькі на абвяшчэнні прысуду. Менш за ўсё хацелася зноў убачыць тую ціхамірна-спакойную ўсмешку на твары Сарокінай, з якой яна пазіравала журналістам перад пачаткам самага першага судовага пасяджэння.

— Сарокінай інкрымінуецца наўмыснае забойства двух малалетніх дзяцей, здзейсненае з асаблівай жорсткасцю. Санкцыя часткі 2 арт. 139 Крымінальнага кодэкса прадугледжвае максімальнае пакаранне ў выглядзе смяротнага пакарання, — пракаментавала Алена Галко, якая выступала ў судзе дзяржаўным абвінаваўцам. — Але для жанчын у нашай краіне максімальны памер пакарання — 25 гадоў пазбаўлення волі.

Нагадаем, па заключэнні стацыянарнай комплекснай псіхолага-псіхіятрычнай экспертызы, ў абвінавачванай у перыяд часу, які адносіцца да інкрымінаваных ёй дзеянняў, дыягнаставалі дысацыяльнае расстройства асобы. Аднак эксперты сцвярджаюць, што ў момант ўтаплення дзяцей абвінавачаная ўсведамляла характар сваіх дзеянняў і іх наступствы.




— Зыходзячы з абставінаў здзейсненага злачынства, а таксама з улікам таго, што абвінавачаная не раскаялася ў зробленым, бок абвінавачвання папрасіў суд прызначыць ёй максімальны тэрмін, — распавяла Алена Галко.

Пацярпелы: «Яна ўсміхалася ўвесь час, і мяне гэтая ўсмешка дабівала»

Пацярпелым у судзе выступаў былы сужыцель абвінавачанай. Алег — адзіны, каму было дазволена прысутнічаць на ўсіх судовых пасяджэннях. Мужчына калісьці жыў з Сарокінай у грамадзянскім шлюбе і прыняў яе дзяцей як сваіх. Ён і яго маці хвалі малых.

На пытанне, ці задавальняе яго прысуд, Алег адказаў:

— Няма такога пакарання, якое б мяне задаволіла. Бог яе пакарае. Ёй 25 гадоў, а калі яна выйдзе, будзе ўжо позна пачынаць усё спачатку. Савелію 5 лістапада было б тры годзікі. 8 кастрычніка споўнілася роўна паўгода з дня смерці малых. Мяне забіла, калі суддзя паказаў ёй рэчавыя доказы — дзіцячыя камбінезончыкі, у якія былі апранутыя мёртвыя малыя, — і спытаў, ці патрэбныя ёй гэтыя рэчы, яна сказала: «Няхай на памяць застануцца».

Мужчына кажа, што Сарокіна не выціснула ніводнай слязы падчас судовага разбору. З яго слоў, толькі на адным пасяджэнні яна

праявіла агрэсію, «калі сведкавыя паказанні давалі супрацоўнікі сацабароны, якія наведвалі яе на доме, яна стала біць па шкле, бегаць у шаленстве па клетцы, нецэнзурна выказвацца. Прыйшлося перапыніць пасяджэнне, яе павезлі тады».

Са слоў пацярпелага, Сарокіна распавяла ў дэталях, што адбылося ў той дзень, калі яна ўтапіла сваіх дзяцей, яе паказанні пацверджаны следствам:

«Увечары Сарокіна вырашыла прыняць ванну, Савелія ўзяла з сабой. Сказала, што хацела расслабіцца. Сына трымала на руках, павярнуўшы спінай да сябе. З яе слоў, у нейкі момант яна, задумаўшыся пра нешта, апусціла галаву малога пад ваду і трымала да таго часу, пакуль ён не захлынуўся.

Гэта адбылося 7 красавіка, бліжэй да ночы. Жанчына паслухала сэрца сына — яно не білася. Яна пакінула мёртвае дзіця ў ванне, села за ноўтбук і набрала ў пошукавіку «пена з рота пры ўтапленні».

Праз некалькі гадзін, ужо ноччу, вырашыла ўтапіць і Ангеліну. Падумала, што яе ўсё роўна асудзяць, а дачку адправяць у дзіцячы дом, патлумачыла яна ў судзе. Аднесла дзяўчынку ў ванну, у якой усё яшчэ ляжаў мёртвы Савелій. Трымала яе пад вадой тварам уніз, калі дастала - Ангеліна была яшчэ жывая, яна зноў пагрузіла дзіця ў ваду.

Затым запусціла мыццё, прыбрала кватэру, дастала мёртвых дзяцей з ванны, апранула адубелыя ўжо трупікі — рыхтавалася да таго, што за ёй прыйдуць. Раніцай сама патэлефанавала ў міліцыю».

— Яна ўсміхалася ўвесь час у судзе, і мяне гэтая ўсмешка дабівала, — прызнаўся Алег. — Казала, што дзецям у магілцы будзе лепш, чым у дзіцячым доме. Я праклінаю той дзень, калі сустрэў яе.

Алег кажа, што калі былі спрэчкі бакоў, ён паказаў фатаграфіі малых, распавёў, як цяжка было іх хаваць, як невыносна было бачыць у царкве на адпяванні замест вясёлых жыццярадасных Ангеліны і Савелія дзве маленькія труны.

— Аксана ўпершыню за ўвесь час судовых пасяджэнняў заплакала. Нават апошняе слова яна прачытала па паперцы: «Я раскайваюся. У жыцці ўсякае можа здарыцца. Зразумейце і выбачайце» — не было шчырасці ў гэтых словах, як быццам чытала кімсьці напісаны тэкст па паперцы. На твары яе была ўсё тая ж ўсмешка.

Перад абвяшчэннем прысуду Сарокіна сядзела, нізка апусціўшы галаву. Аднак, калі яна зрэдку глядзела ў залу, на твары была ўсё тая ж ўсмешка...

*Наталля Прыгодзіч, Tut.by*

# У прыгарадным аўтобусе п'яны мужчына параніў маці хлопчыка, які не саступіў яму месца

***2 кастрычніка ў аўтобусе, які рухаўся па маршруце «Гомель-Цагельня», здзейсненае злачынства, якое рэзка вылучаецца на фоне іншых.***

Шч. 1959 нараджэння, знаходзячыся ў стане алкагольнага ап'янення, пачаў прад'яўляць прэтэнзіі да васьмігадовага хлопчыка, які сядзеў на сядзенні. У прыватнасці, яго цікавіла, чаму хлопчык не саступае яму месца.

Маці хлопчыка Ч. заступілася за сына, паклікаўшы Шч. да парадку. У адказ мужчына дастаў нож, нанёс удар Ч. па твары і, скарыстаўшыся тым, што аўтобус спыніўся, выскачыў і ўцёк.

Але бегаў ён не доўга. Праз гадзіну Шч. быў затрыманы і змешчаны ў ізалятар часовага ўтрымання. У сувязі з дзёрзкасцю і цынізмам злачынства ў дачыненні да яго абраная мера стрымання ў выглядзе заключэння пад варту. Яму пагражае да 10 гадоў пазбаўлення волі. Сам жа мужчына ва ўсім вінаваціць гарэлку. Паводле яго слоў, менавіта з-за выпітага спіртнога ў яго і здарыўся такі прыліў сіл і жаданне дэбашырыць.

*БелаПАН*

У аўтобусе едуць інтылігент, працоўны з МАЗа і міліцыянт.

Інтылігент глядзіць то на гадзіннік, то на міліцыянта, то на гадзіннік, то на міліцыянта - і раптам пачынае яго біць. Працоўны з МАЗа далучаецца, пінае міліцыянта нагамі. Абодвух вяжуць, на наступны дзень суд.

Суддзя пытаецца ў інтылігента:

- Ну як так, вы ж інтылігентны чалавек! Чаму Вы ўдарылі міліцыянта?

Інтылігент адказвае:

- Ну а што я павінны быў зрабіць. Ён наступіў мне на нагу - і не злазіць. Я вырашыў: калі праз тры хвіліны не злезе - удару. Гляджу на гадзіннік - хвіліна прайшла, не злазіць. Дзве хвіліны прайшло - не злазіць. Тры хвіліны прайшло - ну, я яго і ўдарыў.

Суддзя пытаецца ў працоўнага з МАЗа:

- Ну а вы? Чаму вы білі міліцыянта?

Працоўны:

- Еду я ў аўтобусе, побач інтылігент і мент. Інтылігент глядзіць то на гадзіннік, то на мянта, то на гадзіннік, то на мянта. А потым як пачне яго біць, я думаў, па ўсёй краіне пачалося.

# Новая паляўнічая справа. Двое адседзяць за ўсіх?

***У судзе Добрушскага раёна Гомельскай вобласці завяршаецца разгляд гучнай крымінальнай справы аб незаконным паляванні ў зоне адсялення Веткаўскага раёна з удзелам службовых асоб.***

КДБ сумесна з МУС выявіў групу браканьераў, у якую ўваходзілі службовыя асобы Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету пры прэзідэнце, Беларускага таварыства паляўнічых і рыбаловаў, УУС Гомельскага аблвыканкама і іншыя жыхары Гомельскай вобласці.

7 снежні 2014 г. браканьераў затрымалі супрацоўнікі КДБ і групы «А» з доказамі злачынства пры перавозцы незаконна здабытага мяса чатырох ласёў. Пры аглядзе жылля аднаго з браканьераў было канфіскавана чатыры карабіны, восем адзінак паляўнічай гладкаствольнай зброі, пнеўматычная вінтоўка і больш за 300 патронаў да наразной зброі. Сума нанесенай навакольнаму асяроддзю шкоды склала 540 млн рублёў.

У дачыненні да ўдзельнікаў незаконнага палявання, у тым ліку трох супрацоўнікаў Дзяржінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету, пяці супрацоўнікаў УУС Гомельскага аблвыканкама і егера Веткаўскага спецлясгаса былі распачатыя крымінальныя справы.

Аднак судзілі толькі двух абвінавачаных, якія, па версіі следства, былі арганізатарамі незаконнага палявання: егера спецлясгаса і яго сына, які працаваў намеснікам начальніка міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.

Абодва абвінавачваюцца па ч. 4 арт. 282 Крымінальнага кодэкса (незаконнае паляванне з выкарыстаннем механічнага наземнага, воднага або паветранага транспартнага сродку з прычыненнем шкоды ў асабліва буйным памеры) і ч. 2 арт. 295 (незаконнае захоўванне боепрыпасаў). Таксама сын егера абвінавачваецца ў злосным хуліганстве: падчас бойкі каля сельскага клуба ён зламаў сківіцу непаўналетняму.

Усяго па справе аб незаконным паляванні праходзілі 20 чалавек. Справу аднаго з іх вынеслі ў асобны працэс па прычыне хваробы, а ў дачыненні да большасці ўдзельнікаў палявання спынілі крымінальны пераслед праз амністыю па нерэабілітуючых падставах. Усе абвінавачаныя кампенсавалі шкоду.

У дачыненні да двух арганізатараў палявання крымінальны пераслед не спынены, паколькі яны абвінавачваюцца таксама па артыкуле аб незаконным захоўванні боепрыпасаў, які не падпадае пад амністыю.

Сведкамі ў судзе выступалі амніставаныя ўдзельнікі палявання, у тым ліку былы начальнік ДАІ Веткаўскага РАУС і супрацоўнікі ДАІ.

Дзяржабвінаваўца заявіла на судзе, што віна бацькі і сына была даказаная ў поўным аб'ёме, і папрасіла прысудзіць егера да шасці гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці і скараціць тэрмін пакарання па амністыі на год.

Намесніка начальніка інспекцыі пракурор папрасіла прысудзіць да шасці з паловай гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці і таксама скараціць тэрмін пакарання па амністыі на год.

Аўтамабіль «УАЗ» з нумарным знакам «СЕРЕГА», які належыць абвінавачанаму сыну егера, дзяржабвінаваўца папрасіла канфіскаваць у даход дзяржавы як прыладу здзяйснення злачынства, а таксама папрасіла канфіскаваць усю зброю, канфіскаваную падчас ператрусаў ва ўдзельнікаў незаконнага палявання.

Абодва абвінавачаныя не прызналі сваю віну. Егер толькі часткова прызнаў віну ў незаконным паляванні. Яго адвакат заявіла, што яшчэ да заканчэння следства шкода была цалкам выплачана, змякчальнай акалічнасцю з'яўляецца тое, што мужчына з'яўляецца пацярпелым ад катастрофы на ЧАЭС, таму яна папрасіла вызваліць падабароннага ад пакарання па амністыі.

Што тычыцца незаконнага захоўвання боепрыпасаў, то іх абвінавачваны выдаў супрацоўнікам КДБ добраахвотна, таму адвакат лічыць, што па дадзеным артыкуле падабароннага неабходна апраўдаць.

Адвакат сына егера адзначыла, што ён быў толькі ўдзельнікам, а не арганізатарам палявання, не страляў у жывёл і не браў для сябе мяса забітых ласёў. Па словах адваката, мужчына мае толькі станоўчыя характарыстыкі, быў адным з найлепшых кіраўнікоў інспекцыі, у яго быў добры кар'ерны рост, але незаконная паляванне перакрэсліла ўсю яго кар'еру, і гэта стала для яго добрым урокам. Таму адвакат таксама прапанавала вызваліць падабароннага па амністыі.

Па словах адваката, абвінавачваны не ведаў, што захоўвае баявыя, а не паляўнічыя патроны, таму павінен быць апраўданы, як і па артыкуле за хуліганства, паколькі дакладна не даказана, што менавіта ён наносіў удары.

Апошняе слова абвінавачаных і прысуд па справе чакаецца ў лістападзе.

*БелаПАН*

# ЦВК: Самым пратэстным раёнам быў Дрыбінскі, а ў Нароўлі за Лукашэнку прагаласавалі 98,4% СТАТЫСТЫКА

***Цэнтрвыбаркам апублікаваў афіцыйныя лічбы галасавання па рэгіёнах Беларусі. Назіральнікі не даюць веры гэтым лічбам, але якія-ніякія займальныя факты з гэтых звестак можна вылучыць.***

Такім чынам, паводле падлікаў Лідзіі Ярмошынай:

1. За Тацяну Караткевіч найбольш актыўна галасавалі ў Дрыбінскім (10,4%) і Чавускім (10%) раёнах. У Гродне лічбы дасягаюць 8,5-9,5%.

2. Сяргей Гайдукевіч «перамог» у Барысаўскім і Лунінецкім раёнах, дзе яму налічылі крыху менш за 5%. Хаатычнасць лічбаў добра відаць па галасаванні ў Віцебску. У Першамайскім раёне ў Гайдукевіча 8,5%, а ў суседнім Кастрычніцкім — 3,9%. Сацыялогія не ў стане растлумачыць такую гіганцкую розніцу.

3. Лічбы ў падтрымку Улаховіча яшчэ больш сумныя. Выключэнне - Мінскі (4,7%) і Барысаўскі (3,6%) раёны. А вось у Брагінскім раёне лік ішоў не на працэнты, а на асобы — за Улаховіча нібыта падпісаліся ўсяго 17 чалавек.

4. Кандыдат «супраць усіх» лютаваў у Мінску, дзе набіраў аж да 22%. У Маладзечанскім раёне ўсіх адкінулі 9% выбарцаў, у астатніх рэгіёнах лічба складала 0,5-7%.

5. Нарэшце, Аляксандр Лукашэнка. У Мінску яго падтрымалі 62-70%. У рэгіёнах у пратаколах былі зусім іншыя лічбы. У Нараўлянскім раёне за Лукашэнку прагаласавалі 98,4% выбарцаў! А вось адносна пракацілі Лукашэнку ў Маладзечанскім раёне — «толькі» 81,3%.




*Ягор Марціновіч*

# У Гомелі не працуе дзіцячы садок, які ўрачыста адкрылі месяц таму

***У Гомелі прайшоў месяц з урачыстага адкрыцця новага дзіцячага садка № 91 на вуліцы Кніжнай, але дашкольная ўстанова пакуль так і не прыняла выхаванцаў. Цырымонія адкрыцця садка была прымеркаваная да Дня горада і адбылася 11 верасня.***

На адкрыцці дашкольнай установы прысутнічалі прадстаўнікі аблвыканкама і Гомельскага гарвыканкама, патэнцыяльныя выхаванцы дзіцячага садка і іх бацькі. Установа разлічана на 85 дзяцей. У мясцовых СМІ было заяўлена, што групы сфарміраваныя і дзіцячы садок адкрыты.

Між тым установа, адкрытая 11 верасня, «закрылася» ўжо 12 верасня. Тут прадоўжыліся будаўнічыя і аддзелачныя работы, прыпыненыя на час «урачыстага адкрыцця».

У аддзеле адукацыі, спорту і турызму адміністрацыі Цэнтральнага раёна Гомеля паведамілі, што дзіцячы сад пакуль не перададзены ім на баланс. Як толькі гэта адбудзецца, установу адразу адкрыюць. Ва ўпраўленні капітальнага будаўніцтва (УКС) гарвыканкама растлумачылі, што ўсе будаўнічыя работы былі завершаныя да ўрачыстага адкрыцця аб'екта, але ён пакуль не ўведзены ў эксплуатацыю, паколькі не закончана праца прыёмачнай камісіі — не ўсе службы падпісалі дазвол на ўвод аб'екта. Калі дакладна гэта адбудзецца, пакуль невядома, але ва УКБ выказалі надзею, што ў хуткім часе.

*БелаПАН*

- Мам, глядзі, я знайшоў светлую будучыню!
- Пакладзі, сынок, гэта не твая.

ГумНо СПАРТЫЎНАЕ

# ФК «Славія-Мазыр» могуць прыцягнуць да адміністрацыйнай адказнасці за фінансавыя парушэнні

***Камітэт дзяржкантролю Гомельскай вобласці праверыў дзейнасць футбольнага клуба «Славія-Мазыр» і ўстанавіў шэраг парушэнняў.***

Як паведамляе кантрольнае ведамства, футбольным клубам дапушчаныя факты заніжэння пазарэалізацыйных даходаў, што ўлічваюцца пры падаткаабкладанні, неўключэння ў склад аб'ектаў абкладання зямельным падаткам зямельнага ўчастка плошчай 0,01077 га, а таксама несвоечасовага пералічэння падаходнага падатку. У выніку парушэнняў футбольнаму клубу даналічаныя і выстаўленыя да выплаты падаткі, зборы і пені на 344,2 млн рублёў. У перыяд з сакавіка па снежань 2014 года футбольным клубам не выконваліся ўстаноўленыя межавыя памеры выплат кіраўніку і іншым работнікам клуба, што прывяло да залішняй выплаты заработнай платы больш як на 102,2 млн рублёў.

Паводле інфармацыі КДК Гомельскай вобласці, футбольным клубам таксама дапушчанае нямэтавае выкарыстанне замежнай бязвыплатнай дапамогі на 188,2 млн рублёў, атрыманай на развіццё дзіцяча-юнацкага футбола.






Пры разліках з установай «СДЮШАР № 1 г. Мазыра» за спажытыя камунальныя паслугі і аказаныя паслугі спартыўных пабудоў ФК не кампенсаваныя ўказаныя паслугі на 80,4 млн рублёў з улікам стаўкі рэфінансавання.

Медыцынскую дзейнасць па правядзенні масажу футбольны клуб ажыццяўляў без атрымання ва ўстаноўленым парадку спецыяльнага дазволу (ліцэнзіі) Міністэрства аховы здароўя.

Апрача таго, футбольным клубам дапушчаныя скажэнне звестак статыстычнай справаздачнасці, несвоечасовая выплата заработнай платы за сакавік 2015 года і іншыя парушэнні.

Паводле вынікаў праверкі футбольным клубам кампенсаваныя ў бюджэт 469,6 млн рублёў, часткова кампенсаваная залішне выплачаная заработная плата на 70,5 млн рублёў. Да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнутыя дзве службовыя асобы на 4,3 млн рублёў, разглядаецца пытанне аб прыцягненні футбольнага клуба да адміністрацыйнай адказнасці.

*БелаПАН*

M&S MEDIA

Неперыядычнае выданне
Інфармацыйна-забаўляльная газета
«Гомельскія Навінкі Кастрычнік 2015»
Уладальнік выдання - M&S Media

Заснавальнік: Гуан Карлас
Галоўны рэдактар: Лявон Грос
Галоўны дызайнер: Аляксей Венецыянаў

246006, г. Гомель, вул. Замаева, 69
Рэдакцыя "Гомельскія Навінкі 2015"

Надрукавана на папяровай фабрыцы "ГумНо", г. Клінцы, вул. Мажаеўская, 17б.




Тыраж: 250 асобнікаў.
Распаўсюджваецца безкаштоўна.

Мы ў сацыяльных сетках:
**vk.com:** gnavinkicom
**facebook.com:** spravavodstva

Наш ***e-mail:*** gnavinki@gmail.com

M&S MEDIA